# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 16 (271) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 22 КРАСАВІКА 1962 | ЦАНА 60 ГР.


Жывая прырода

Фота: Т. Чачкоўскі



## СУПОЛЬНЫЯ ЗАДАННІ

Вялікія заданні стаяць перад Беласточчынай у пяцігадовым плане. Калі возьмем, напрыклад, нашу прамысловую вытворчасць, то прадпасылкі выяўляюць небывалую дынаміку. Заданні ў гэтай галіне прадбачваюць звыш 87,8% узросту (сярэдні ўзрост прамысловай вытворчасці ў краіне ў гэтым перыядзе складзе 51,8%). Намаганні ў рэалізацыі гэтых заданняў павінны ісці ў напрамку на абеспячэнне тэрміновага і комплекснага ўвядзення новых вытворчых здольнасцей і на далейшае парадкаванне гаспадаркі ў прадпрыемствах. Трэба таксама запэўніць прыплыў адпаведнай колькасці высокакваліфікаванай кадры.

Вельмі важным заданнем з'яўляецца рэалізацыя інвестыцый. У пяцігадовым плане прадугледжваецца ў нашым ваяводстве на інвестыцыі каля 12 мільярдаў злотых (узрост у параўнанні з папярэдняй пяцігодкай на 80,6%). Гэтыя інвестыцыі трэба выкарыстаць як найбольш эфектыўна на гаспадарчае развіццё нашага ваяводства.

Цэнтральнай праблемай Беласточчыны з'яўляецца развіццё сельскай гаспадаркі. За пяцігодку маем змеліяраваць 101 тыс. га зялёных угоддзяў і прывесці ў парадак рэкі працяжнасцю ў 684 км. На меліярацыю прызначана 1 мільярд 219 млн. зл., гэта значыць, два разы больш, чым выдалі мы на гэту мэту за ўвесь перыяд народнай улады. У гэтыя гады значна павінны разрасціся сельскагаспадарчыя гурткі. Іх машынны парк паводле плана павінен скласці 4,5 тыс. трактараў разам з іншымі машынамі. ПГР-ы павінны дабіцца поўнай рэнтабельнасці і стацца прыкладнымі сацыялістычнымі гаспадарствамі. Павінна наступіць далейшае развіццё і ўмацаванне сельскагаспадарчых кааператываў.

А самы блізкі перыяд? Найважнейшым заданнем 1962 года з'яўляецца ўтрыманне вынікаў, якіх дабіліся мы ў сельскай гаспадарцы ў 1961 годзе.

Рэалізацыя праграмы развіцця беластоцкай сельскай гаспадаркі нялёгкая. Цяжкасці паглыбляе шмат недахопаў. Галоўным з іх: недастатковае развіццё сялянскага самакіравання. Дагэтуль у ваяводстве ёсць яшчэ звыш 2 тыс. вёсак, у якіх няма сельскагаспадарчых гурткоў, а членамі іх з'яўляюцца толькі 17,6% сялян. Шмат недахопаў ёсць і ў існуючых гуртках. Надта мала з іх вядуць пашыраную гаспадарчую дзейнасць. Шмат гурткоў нічога не робіць. Усё існуе недастатковае размяшчэнне машын, а таксама неэканомнае выкарыстанне іх. У сярэднім магчымасці трактараў выкарыстоўваюцца ў 50%. Нягледзячы на значныя дасягненні ў меліярацыйных працах, выступае тут яшчэ шмат цяжкасцей у загаспадараванні і выкарыстанні змеліяраванай зямлі. Шмат недахопаў выступае ў рэалізацыі насеннага плана, у выкарыстанні існуючых рэзерваў угнаення, у развіцці кармавой базы і г.д.

Каб пераадолець існуючыя цяжкасці і поўнасцю выканаць заданні ў галіне сельскай гаспадаркі — патрэбна мабілізацыя ўсіх сіл і сродкаў. Аднак выкананне гэтых заданняў галоўным чынам залежыць ад актыўнай працы ўсіх сялян Беласточчыны.

Гэтыя заданні і праблемы былі тэмай двухдзённых абрадаў IX ваяводскай справаздачна-выбарчай канферэнцыі ПАРП у Беластоку, якая, як мы ўжо паведамлялі, адбылася 7 і 8 красавіка г.г.

## ПАД РАЗВАГУ НАСТАЎНІКАМ

На Беласточчыне працуе ўжо 41 настаўнік, якія маюць дыпломы Завочнай настаўніцкай студыі. Зараз на Беларускай філалогіі Беластоцкай ЗНС вучыцца 49 іншых настаўнікаў са школ з беларускай мовай.

У бягучым годзе ізноў арганізуецца 1 год навучання на Беларускай філалогіі. Усіх настаўнікаў са школ з беларускай мовай, якія маюць сярэднюю педагагічную адукацыю, заахвочваем уступіць на гэты кірунак. Заяўкі трэба злажыць у сваіх інспектаратах асветы. Запісы прымаюцца без экзаменаў.

Не адцягвайце. Складайце зараз. (п)

## ЯКІМ БЫЎ ЛЕНІН

(З успамінаў тых, якія чго ведалі і бачылі)



Ленін і Бонч-Бруевіч

**П. МАЛЬКАЎ — першы камендант Крэмля.**

Аднойчы я быў у сябе ў камендатуры, калі раптам адчыніліся дзверы і на парозе стаў Уладзімір Ільіч. У руцэ трымаў прыгожую драўляную шкатулку.

— Таварыш Малькаў, ці не знайшлі б вы некалькі мінут часу? Калі не наробіць вам гэта многа клопатаў, адчыніце гэтую шкатулачку. Зусім не магу сам справіцца. Але смею прасіць — асцярожна і далікатна, каб не папсаваць яе. Яна мае для мяне вялікую вартасць — тут ляжаць лісты ад маёй мамы.

Аднойчы Будзённы прывёз Леніну пасылку ад салдат першай коннай арміі. Назаўтра Ленін да Малькава:

— Учора быў у мяне таварыш Будзённы. Цудоўны таварыш. Прывёз мне вось гэтыя прадукты. Вазьміце іх, будзьце ласкавы, і перадайце ў дзіцячы дом, для дзяцей. Абавязкова для дзяцей.

Аднойчы Ленін вяр-

(Працяг на стар. 4)

## Меліярацыя — справа сур'ёзная

Акрамя развіцця прамысловасці Гайнаўскі павет і ў далейшым застаецца вялікай плошчай аграрнай прадукцыі з вялікімі магчымасцямі яе пастаяннага развіцця. Далейшы ўзрост аграрнай прадукцыі ў Гайнаўскім павеце залежыць ад многіх фактараў. Вялікае значэнне для ўзросту аграрнай прадукцыі, а перад усім для зялёных угоддзяў, мае меліярацыя. У адносінах велічыні плошчы зялёных угоддзяў Гайнаўскі павет займае адно з першых месц у ваяводстве. Лугі аднак пераважна забалочаныя, а асабліва ў басейнах рэк: Нарва, Нурэц, Нараўка і Лясная. Ураджайнасць такіх лугоў вельмі нізкая, ад 10 да 15 цэнтнераў сена з гектара. Але каб ураджайнасць была большая, трэба праводзіць меліярацыйныя інвестыцыі, а таксама пасляметіярацыйнае загаспадараванне.

У Гайнаўскім павеце да 1961 года змеліяравана звыш 7 тысяч га лугоў. Існуе таксама каля 8 тысяч лугоў, якія не патрабуюць меліярацыі. Складае гэта 53% плошчы зялёных угоддзяў. 14 тысяч га лугоў г. зн. 43% патрабуюць меліярацыі.

Аб карысцях, якія дае меліярацыя, шмат гаварыць не трэба. Змеліяраваныя і загаспадараваныя лугі даюць добрыя вынікі. Можна прывесці канкрэтныя прыклады. У даліне ракі Нурэц на тэрыторыі ГРН Кляшчэлі змеліяравана і загаспадаравана звыш 500 га лугоў. Перад меліярацыяй гаспадары з гэтых лугоў збіралі 8—10 цэнтнераў сена з га. Пасля меліярацыі і загаспадаравання ўраджай павысіўся ад 60 да 80 працэнтаў з га. Сярэдняя гадавая прадукцыйнасць малака павялічылася ад 1300 да 1700 літраў ад каровы. Такіх прыкладаў можна прывесці больш. Змеліяраваныя зялёныя ўгоддзі павялічылі

(Працяг на стар. 4.)

ЯН КЭНДЗЕРСКІ

# ГРАМАДСКА — КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ

У рэалізаванні нацыянальнай палітыкі народнай дзяржавы сур'ёзныя заданні прыпадаюць на рады нарадовыя. У сваёй працы рады нарадовыя, на той тэрыторыі, дзе пражываюць групы нацыянальных меншасцей, сустракаюцца з праблемамі жыцця гэтых людзей і, згодна з прадпасылкамі палітыкі нацыянальных меншасцей у Польшчы, развязваюць шмат важных спраў для жыцця і развіцця гэтых людзей.

І так, аддзелы культуры прэзідыумаў ваяводскіх рад нарадовых дапамагаюць таварыствам у іх культурна - асветных працах, даючы ім фаховых кіраўнікоў, дапамагаюць у падрыхтоўцы культурна - асветных дзеячоў, забяспечваючы ў абсталяванне і рэпертуар святліц, дамоў культуры і г. д. У шматлікіх паветах існуюць дамы культуры, а ў шматлікіх грамадах — святліцы, з працы якіх карыстае як польскае, так і нацыянальных меншасцей насельніцтва. Гэта найлепшая форма зближэння дружнага сужыцця і выхавання моладзі на інтэрнацыянальных асновах, знаёмства з прыгожымі дасягненнямі прагрэсіўнай нацыянальнай культуры, народнага фальклору.

Школьныя куратарыі арганізуюць такія школы, дзе моладзь вучыцца ўсіх прадметаў на роднай мове, а таксама і такія школы, дзе моладзь вучыцца ўсіх прадметаў на польскай мове, маючы ў праграме навучанне роднай мовы. Куратарыі пры дапамозе таварыстваў арганізуюць сотні пунктаў навучання роднай мовы паасобных нацыянальных меншасцей. Рыхтуюцца настаўніцкія кадры. Ім даецца медыцынская дапамога, праводзяцца працы з мэтай пашырэння кваліфікацый. Візітатары нацыянальнага школьніцтва паходзяць з данай нацыянальнай меншасці, або добра ведаюць тую мову, на якой вядуцца заняткі ў школе.

Таксама ўстановы і аддзелы ўнутраных спраў паасобных рад нарадовых належаць да тых аддзелаў, якія беспасрэдна працуюць з групамі нацыянальных меншасцей. Да іх належыць перад усім хуткае рэагаванне на праявы дыскрымінацыі, беспасрэдны кантакт з праўленнямі грамадска - культурных таварыстваў, а таксама догляд над іх статутнай дзейнасцю. Установы і аддзелы гэтыя дапамагаюць таварыствам у вырашэнні ўсялякіх праблем у іх працы і ў шматлікіх прэзідыумах, на аснове пастаноў, гэтым аддзелам рад нарадовых даручаецца каардынацыя працы іншых аддзелаў па нацыянальнай лініі. Апошнім часам мелі яны сур'ёзныя заданні ў сувязі з размеркаваннем крэдытаў часткова амартызаваных, мэтай якіх было дапамагчы з боку дзяржавы няпольскаму насельніцтву ў актывізацыі сельскай гаспадаркі.

Побач з гэтымі аддзеламі, якія беспасрэдна працуюць з нацыянальнымі групамі, і іншыя аддзелы паасобных рад нарадовых не стаяць збоку. Ці гэта будзе гаспадарчы аддзел, фінансавы, камунальны ці іншы — кожны з іх уладжвае справы гэтым людзям, сустракаюцца з наведвальнікамі, і работа гэтага аддзела, спосаб уладжвання спраў мае ўплыў на фарміраванне правільных адносін. Ад іх працы ў вялікай ступені залежыць, як хутка будзем наганяць недабор, як хутка будзе рэальная фактычная роўнасць і адзінства ўсяго грамадства.

Калі гаворым аб ваяводскіх радах нарадовых, гэта ж адносіцца, калі нават не ў большай ступені, і да павятовых рад нарадовых, таму што яны працуюць яшчэ бліжэй з гэтым асяроддзем.

Неаднаразова тэматыка нацыянальных меншасцей была прадметам аналізы на пасяджэннях прэзідыумаў і камісій, асабліва камісіі культуры, асветы або грамадскага парадку. Шмат прэзідыумаў прымала пастановы і канкрэтна забавязвала зацікаўленыя і адказныя аддзелы. Гэтак было ў ваяводствах: Врацлаўскім, Беластоцкім, Гданскім, Ольштынскім, Шчэцінскім, Кашалінскім, Зялёнагурскім, Кракаўскім і Жэшаўскім. Таксама праблемай нацыянальных меншасцей займаліся і ў радах нарадовых у гарадах: Варшаве, Вроцлаве, Лодзі, Кракаве. Многія ваяводствы маюць сур'ёзныя дасягненні і вялікі вопыт у развязванні нялёгкіх нацыянальных праблем.

У Народнай Польшчы тысячы грамадзян, якія паходзяць з асяроддзя нацыянальных меншасцей, згодна са спецыялізацыямі займаюць розныя грамадскія і дзяржаўныя пасады. Працуючы ў Камітэтах Фронта адзінства народа тысячы радных з асяроддзя нацыянальных меншасцей былі выбраны да рад нарадовых. Моладзь гэтых асяроддзяў мае адчыненыя дзверы да навукі.

У такім становішчы нацыянальныя меншасці лічаць Народную Польшчу сваёй Айчынай, звязваюцца з польскім народам, з яго барацьбой за мір і будуюць з ім супольную сацыялістычную радзіму.

Народная Польшча ў практыцы паказала, што поўнае і фактычнае раўнапраўе нацыянальных меншасцей незалежна ад іх колькасці магчымае толькі ва ўмовах сацыялістычнага ладу, які кіруецца гуманітарнымі асновамі пралетарыяцкага інтэрнацыяналізму, патрапіць ім даць уласцівыя ўмовы матэрыяльнага, грамадскага і культурнага жыцця. Толькі такі лад патрапіць адчыніць далейшыя перспектывы развіцця іх нацыянальнай культуры ў форме і сацыялістычнай у змесце.

# У СЛУЖБЕ НАРОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

Найноўшыя дасягненні агратэхнікі, сучаснае вясковае будаўніцтва ці вырабы тэкстыльных фабрык — усё гэта фактары, якія ўносяць агромныя змены ў жыццё сялянства. На нашых вачах паволі аднак няўхільна выціскаюцца з яго побыту розныя праявы народнай культуры, адбываюцца працэсы, якія ўжо сёння дазваляюць гаварыць пра ўчарашні дзень вёскі. Аднак, адыходзячы ад нас, ён пакідае пасля сябе не адзін прыкметны след, які часта застаўляе нас схіляць галаву з глыбокай павагай перад народнай кемлівасцю і вынаходлівасцю. Вырабы вясковых саматужнікаў, узорыстыя тканіны, даслоўна ўсё, што выраблялася і яшчэ зараз выраблаецца сялянствам, становіцца часам музейнай рэдкасцю і цэніцца даследчыкамі - этнографамі на вагу золата. Дзе ж, урэшце, як не ў народных нетрах, не з рук колішніх вясковых майстроў выйшлі прататыпы сучасных сельскагаспадарчых машын ці іншых вырабаў, аб радаслоўі якіх людзі паспелі ўжо забыць. І вось пачэснай задачай навукі з'яўляецца, на колькі гэта магчыма, ўваскрашэнне ў памяці нашчадкаў шматлікіх працэсаў у развіцці матэрыяльнай культуры народа, пачынаючы ад самых простых яе форм.

Такую цяжкую і складаную працу выконваюць этнографы — гэтыя нястомныя вандраўнікі па сялянскіх сялібах, якіх праніклівае вока дагледзіць нават самае непрыкметнае і ўяўна няважнае. Звычайна яны працуюць пры розных навукова - даследчых інстытутах, музеях, кафедрах этнаграфіі і г.д. Творчая атмасфера такіх устаноў, іх прызначэнне і характар ствараюць самыя спрыяльныя ўмовы для дзейнасці гэтых людзей. І вось у пошуках матэрыялаў, якія б адпавядалі густам нашых чытачоў, давялося пабываць аж у Торуні, у тутэйшым Этнаграфічным музеі. Яму, менавіта, падначалены ваяводствы Паўночнай Польшчы ўключна з Беласточчынай. Наш рэгіён прадстаўлены тут каштоўнымі экспанатамі народнай культуры, колькасць якіх дасягнула ўжо амаль тысячы. У многім Этнаграфічны музей у Торуні забавязаны таксама свайму навуковаму працаўніку, мгр Мар'яну Пяцюкевічу. А з ім мы, уласна кажучы, добра знаёмы. М. Пяцюкевіч неаднаразова выступаў ужо на старонках «Нівы» з артыкуламі і нарысамі, так што сённяшнюю сустрэчу будзем лічыць паглыбленнем старых сувязей. Як ужо адзначалася, музей ахоплівае сваёй дзейнасцю ваяводствы Паўночнай Польшчы, уключна з Беласточчынай. Дык вось ролю прадстаўніка музея на тэрыторыі гэтага ваяводства паспяхова спаўняе Мар'ян Пяцюкевіч. Штогод ён наведвае паасобныя паветы, у тым ліку і заселеныя беларускім насельніцтвам.

— Дзякуючы знаёмству з народнай культурай беларусаў гэтая тэрыторыя прадстаўляе для мяне незвычайна цікавы і ўдзячны аб'ект доследаў, — падкрэслівае мгр Пяцюкевіч. — Тут наглядна можам прасачыць, як сплятаюцца паміж сабою народныя культуры беларускага, польскага і ў пэўнай ступені літоўскага насель-

(Працяг на стар. 5)








Калесьны плуг з вёскі Паўночны Востраў на Сакольшчыне ў зборах Этнаграфічнага музея ў Торуні.

Мгр Мар'ян Пяцюкевіч у размове з прадстаўніком «Нівы».

Сельскагаспадарчыя прылады на Беласточчыне ў зборах Этнаграфічнага музея ў Торуні.

Фота Б. Гарбачэўскі

---

прывёў да яго барона Гольдрынга. Па-першае, у яго можна будзе перахапіць тры-чатыры сотні марак; па другое, — самая зручная нагода, каб выканаць даручэнне Бертгольда. Трэба знайсці нейкую прычыну, каб аставіць барона ў пакоі самога, пакінуўшы ўсё так, як яно ёсць цяпер. Гэтыя паперы з пазнакай «цалкам тайны», паўадкрыты сейф... Такія прынады не могуць не спакусіць фон Гольдрынга, калі ён чалавек няпэўны!.. І тады, хопіць толькі глянуць у шкло перыскопа, які замаскаваны ля сейфа, і барона можна злавіць на гарачым. Толькі як тут адным выстралам забіць двух зайцаў?

— Дык чым магу служыць?

— Бачыце, — нібы дабіраючы словы, пачаў Кубіс, — я вельмі хацеў бы ведаць вашу думку па некаторых пытаннях, звязаных з маёй працай.

— З ахвотай адкажу на ўсе вашы пытанні.

— Вы працавалі ў Расіі і ведаеце практыку рускіх. Скажыце, калі савецкая контрразведка выкрывае нашага агента і арыштоўвае яго, ёсць у яго нейкія шанцы на ўратаванне?

— Не больш, чым у рыбы, што ляжыць на скарадзе, трапіць зноў у рэчку. У мірны час наш разведчык яшчэ можа лічыць на нейкія змягчаючыя абставіны: шчырасардэчныя паказанні і гэтак далей. Але ў час вайны...

— А калі наш агент, каб ўратаваць сабе жыццё,



або за высокую ўзнагароду згадзіўся працаваць на савецкую разведку?

— Такія выпадкі немагчымы, — сказаў Гольдрынг. — Кадры савецкай разведкі дабіраюцца па зусім іншаму прынцыпу. Савецкая разведка, на жаль, тым і моцна, што яе супрацоўнікі — людзі ідэйныя, я б нават сказаў фанатыкі.

— Так, так... — гаўптман Кубіс змоўк, думаючы, як яму перайсці да пытання, што яго найбольш зараз цікавіць.

Дапамог сам Гольдрынг.

— Выбачайце, гэр гаўптман, — сказаў ён, — але мяне проста мучыць думка, што я крыху вінаваты перад вамі. Я ўчора напрасіўся да вас у вучні і нерваваў вас, заглядваючы ў вашы карты. Я вельмі прашу правільна мяне зразумець, але я ўчора прыкмеціў, што ў вас ёсць пэўныя клопаты, ну, з гэтым Шульцам...

— На жаль, вы адгадалі, барон, я сапраўды вінаваты Шульцу трыста пятнаццаць марак і, кажучы шчыра, проста не ведаю, як выйду з гэтай гісторыі!

— О, якая дробязь! Я буду проста шчаслівы, калі вы згодзіцеся, каб я пазычыў вам гэту суму.

— Вы цудоўны чалавек, дарагі барон! — з палёгкай выгукнуў Кубіс. — Слова гонару, цудоўны чалавек! Я ахвотна скарыстаю з вашай прапановы! А для замацавання нашага сяброўства мы з вамі



вып'ем па чарцы каньяку.

— Для такой мэты нельга адмовіць, — смеючыся, згадзіўся Гольдрынг.

— Тады дазвольце пакінуць вас на пяць хвілін самога. Я толькі збегаю да сябе ў пакой.

Не чакаючы на адказ Гольдрынга, гаўптман Кубіс накіраваўся да дзвярэй.

— Адну хвілінку! — спыніў яго Гольдрынг. — Вы выходзіце, а сакрэтныя паперы пакідаеце на стале. Ці не лепш схаваць іх у сейф?

— Дробязь! — махнуў рукою Кубіс. — Вы ведаеце не меншыя сакрэты, чым я.

Аўтаматычны замок шчоўкнуў. Чуваць было, як аддаляюцца крокі Кубіса. Генрых глянуў на паперы, выцягнуў сігарэту, размяў яе і адыйшоў да акна.

Калі за дзвярыма пачуліся крокі, Гольдрынг нават не аглянуўся, быццам не чуў іх.

Кубіс падыйшоў да сейфа, закрыў яго і толькі тады выцягнуў з адной кішэні недапітую пляшку каньяку, а з другой дзве пластмасавыя чаркі і пачаў разліваць каньяк.

— За пройгрыш, які абярнуўся для мяне ў выйгрыш! — сказаў гаўптман.

— Тады і за мой выйгрыш! — у тон Кубісу сказаў Генрых, падымаючы чарку.

«Прайшоў яшчэ адну праверку», мільганула радасная думка ў галаве Генрыха.

 

# Якім быў Ленін

(Працяг са стар. 1)

таўся на Крэмль без пропуску (вартаўнікі ведалі яго). На варце якраз стаяў вартаўнік, які Леніна не ведаў. Шафёра, які меў пропуск, прапусціў, а Леніна не. Ленін пачаў прасіць, каб пазваніў да камандзіра варты. Вартаўнік адразу не хацеў.

«Ты патрабуеш, то ты і звані, — сказаў. — Я стаю на варце». Урэшце на настойлівую просьбу пазваніў. Ну і выяснілася ўсё.

Па хвіліне тэлефон ад Леніна.

«Таварыш Малькаў, прашу адзначыць вартаўніка, які стаіць цяпер на пасту пры Спаскай браме. Добры таварыш. Дасканала ведае свае абавязкі і прыкладна выконвае службу».

У пачатку красавіка 1920 года ў час IX З'езда партыі, група таварышаў вырашыла адзначыць 50-годдзе нараджэння Леніна. На адным з пасяджэнняў З'езда было некалькі выступленняў на гэтую тэму. Уладзімір Ільіч страшна разгневаўся.

— Калі хочаце, — сказаў, — працаваць, то давайце будзем працаваць, але няма патрэбы марнаваць часу З'езда на пустыя размовы.

**ДЖОН РЫД — амерыканскі журналіст, адзін з арганізатараў Камуністычнай партыі ЗША.**

У паношанай вопратцы, даўгаватых нагавіцах, чалавек гэты не выглядаў на бажаство натоўпу... Надараны цудоўнай сілай тлумачыць найглыбейшыя ідэі найпрасцейшымі словамі і выключнай здольнасцю аналізаваць канкрэтныя сітуацыі, спалучаючы ўсё гэта з незвычайнай адвагай думкі і неспатыканай праніклівасцю.

Зусім не жэстыкуліраваў. Хочучы падкрэсліць нейкі сказ ці слова, нахіляўся лёгка ўперад да тысяч твараў, што глядзелі ўгору з напружанай увагай і захапленнем.

**МАКСІМ ГОРКІ.**

Прыйшоў у гасцініцу, дзе я затрымаўся, і бачу: клапатліва шчупае пасцель.

— Што гэта вы робіце?

— Гляджу, ці не сырыя простыні. Вы павінны дбаць пра сваё здароўе.

**Н. СЕМАШКО.** — лекар, вядомы дзеяч Камуністычнай партыі, арганізатар савецкай аховы здароўя.

Уладзімір Ільіч быў бязлітасным ворагам курэння: сурова забаранялася курыць у час пасяджэнняў (СНК — рэд.). Наркомам, заўзятым курыльшчыкам дазвалялася курыць у куце за печкай і пускаць дым у комін. Часам за печкай збіралася 2 — 3 курыльшчыкі і яны пачыналі размову.

— Запечны тараканы, цішэй! — жартаўліва адзываўся Уладзімір Ільіч.

**В. БОНЧ-БРУЕВІЧ** — гісторык, першы кіраўнік бюро Совнаркома.

З назіранняў.

— Ну, ужо за хлебам — гэта я пайду! Чаму ты мне, Надзя, раней не сказала. Я ж павінен памагаць па-гаспадарцы.

Ён мігам апранаўся і ішоў у магазін і прыносіў усё, што было патрэба.

**Г. УЭЛЬС — англійскі пісьменнік-фантаст.**

«Асноўнай мэтай майго падарожжа з Петраграда ў Маскву было: убачыць Леніна і пагаварыць з ім. Я быў моцна зацікаўлены гэтым спатканнем і, прызнаюся, што быў настаўлены да Леніна не надта прыязна.

Ідучы да Леніна я спадзяваўся спаткаць дагматыка марксізма і дактрынёра, з якім прыдзецца сутыкнуцца, але сталася інакш. Ленін мае прыемны смуглы твар, выраз якога хутка змяняецца і які ажыўляе ўсмешка. Ленін не падобны да сваіх фатаграфій. Ён належыць да людзей, у якіх змена выразу твару мае значна большае значэнне, чым яго рысы.

Гаворачы са мной, Ленін лёгка жэстыкуліраваў. Гаварыў хутка, захоплены тэмай, без цені якой-небудзь позы, шчыра і проста, так як звычайна размаўляюць сапраўдныя вучоныя.

Калі гаварыць пра мяне, то я ў ніякім выпадку не патраплю ўявіць сабе той Расіі будучыні. Але гэты незвычайны, невялікага росту чалавек у Крэмлі мае вялікі дар уяўлення. Ён ужо бачыць, як замест цяперашніх старых цягнікоў, пачнуць ездзіць новыя, электрычныя, бачыць, як лініі новапабудаваных шасэ перарэжуць усю краіну, як на развалінах мінуўшчыны расцвітае шчаслівая прамысловая камуністычная дзяржава.

Матэрыял да друку падрыхтавала
**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

## Люблінская канферэнцыя

28 і 29 сакавіка гэтага года адбылася міжваяводская канферэнцыя грамадска-культурных таварыстваў, дзейнічаючых у Беластоцкім, Люблінскім, Келецкім і Жэшоўскім ваяводствах. Канферэнцыя была прысвечана пытанню актывізацыі культурна - асветнага жыцця гарадоў і вёсак. Сярод чатырох секцый: этнаграфічнай, выдавецкай, грамадскіх ініцыятыў і арганізацыйна - праграмнай мне прышлося працаваць у найбольшай і, здаецца, найцікавейшай секцыі грамадскіх ініцыятыў. Так, напрыклад, у Замосці арганізаваўся Тэатр Замойскай зямлі, удзельнікі якога апрача працы на месцы апякуюцца мастацкімі самадзейнымі калектывамі ў сваёй аколіцы. Гэты эксперымент ужо пераносіцца да нас. Члены эстраднай групы «Лявоніха» пачалі наведваць вясковыя калектывы. Карыстаюцца яны большым аўтарытэтам, чым прафесіянальныя інструктары.

Таварыства Пулаўскай Зямлі занялося папулярызацыяй сярод насельніцтва свайго вопыту ў галіне раслінагадоўлі і жывёлагадоўлі, а таксама збіраннем мясцовага фальклору.

Дзейнічаючае на весцы, якая вядомая з рэвалюцыйных традыцый, Таварыства Зямлі Кшчаноўскай запачаткавала сваю працу ад навязання сувязі з інтэлігенцыяй, якая вышла з таго асяроддзя, але на якое амаль не ўздзейнічала, была ад яго адарвана. БГКТ у параўнанні з іншымі таварыствамі вядзе найбольш разнастайную працу. Таму ўсе прысутныя з зацікаўленнем заслухалі маю ін-

(Працяг. на стар. 5)

## У Кляшчэляўскім ПОМ-е

Малая, цесная майстэрня ў ПОМ-е Кляшчэлі поўнасцю запханая. Машына стаіць ля машыны. Працаўнікі з цяжкасцю праціскаюцца паміж трактарамі. Адзінаццаціасабовы калектыў, нягледзячы на цяжкія ўмовы працы, ужо вырамантаваў апырсквальнікі, трактары з камплектам сельскагаспадарчых машын не толькі ў сваім гуртку, але і ў падапечных.

Добрае абсталяванне паможа калектыву ў выязной працы. Зараз ПОМ мае заказы на апырсканне 1476 га культур, 2575 фруктовых дрэў, узараць 61 га, правесці культывацыю на 59 га і дыскавання на 39 га. А кожны дзень прыносіць новыя заявы. Найлепшай рэкламай з'яўляецца тэрміновае і добрае выкананне паслуг.

У 1958 годзе вартасць выкананых ПОМ-ам прац складала 301 000 зл., у наступным годзе павысілася да 617 000 зл., а ў 1961 г. дасягнула 805 000 зл.

У 1961 годзе калектыў ПОМ-у выканаў план машына - трактарных работ на 122%, дасягаючы 251 000 зл. даходу.

**Манцёр Пётр Купрыцюк заканчвае рамонт трактара «Беларусь». Ён ужо 10 год працуе ў майстэрнях ПОМ-у.**

**Трактарыст Канстанцін Вэрэмчук рыхтуе трактар «Урсус» у дарогу. Ён у сярэднім у месяц выконвае 140% плана.**



**Штодзень раніцай брыгадзіры з трактарыстамі ўстанаўліваюць план працы. На здымку брыгадзіры Ян Саліма і Міхась Гарашкевіч устанаўліваюць план працы для трактарыстаў Канстанціна Вэрэмчука, Данеля Гладзкага і Антона Гапанюка.**

**Будуюцца новыя майстэрні ПОМ-у ў Кляшчэлях.**



**Тэкст і фота ТАЧ**

## Меліярацыя — справа сур'ёзная

(Працяг са стар. 1)

ўзрост пагалоўя быдла ў павеце ад 23 тысяч штук у 1958 годзе да 25 тысяч 800 штук у 1961 годзе.

Усё гэта мае ўплыў на павелічэнне зацікаўленасці гаспадароў гэтымі справамі. Заключаецца гэта ў праяўленні ініцыятывы адносна меліярацыі. Вартасць грамадскіх чынаў пры меліярацыйных працах у 1961 годзе вынесла 147,1 тысяч злотых. У рамах гэтых чынаў выканана 3 тысячы метраў равоў, 105 метраў крытага трубапravода, а таксама залажылі 4 праезды з бетонных труб у форме перамычкі (пшэпусту). Гэтыя працы былі выкананы ў мясцовасцях: Апака Вялікая, Адрынкі, Чаромуха, Пухлы, Белавежа, Асоўка і Ваські.

Другой карыснай прыкметаю павелічэння зацікаўленасці гаспадароў меліярацыйнымі працамі з'яўляецца тое, што сяляне арганізуюць водныя суполкі. Да 1959 года не было іх зусім. Зараз працуе іх 6 (Тынявічы, Кляшчэлі, Вітава, Старына, Палічна, Агароднікі). Некаторыя з іх, напрыклад, водная суполка «Кляшчэлі», з'яўляюцца поўнымі ініцыятарамі пры загаспадароўванні пасля-меліярацыйных лугоў, а таксама пры выконванні меліярацыйнага абсталявання.

Каб змеліяраваныя зялёныя ўгоддзі былі поўнасцю выкарыстаны і прыносілі карысць, трэба іх загаспадараваць. Але не заўсёды загаспадараванне адбываецца адначасова з меліярацыяй. На 8 тысяч га лугоў змеліяравана толькі 4.250 га лугоў. Усялякія тут прычыны. Трэба сюды аднесці недахоп сельскагаспадарчага абсталявання да ворыва, недахоп насення. Не кожны гаспадар, на зямлі якога правялі меліярацыю, можа адразу пакрыць кошт загаспадаравання, які выносіць 5 тысяч злотых за адзін гектар.

Каб меліярацыйнае абсталяванне было прыдатнае да выкарыстання, яно павінна быць адпаведна кансерваванае. Кансервацыю павінны праводзіць тыя, якія карыстаюцца імі. Гэта павінны выканаць прэзідыумы грамадскіх рад нарадовых, як беспасрэдныя гаспадары сваёй тэрыторыі. Праводзіць кантролю над кансервацыяй павінен Сектар водных меліярацый прэзідыум ПРН. У шматлікіх выпадках прэзідыумы ГРН не прывязвалі вялікай увагі да гэтых спраў, а за ўсе працы былі адказныя аграмеліяранты. Здараліся і такія выпадкі, што меліярацыйнае абсталяванне нішчылася. Напрыклад, у Белавежы, Трасцянцы, Нарве і Кленіках нішчылі яго, праганяючы праз яго быдла.

Паступова аднак адносіны грамадскіх рад, а таксама і гаспадароў да спраў меліярацыі змяняюцца. Гаворыць гэта аб тым, што меліярацыйны план павета на 1961 год быў выкананы звыш 100%. У выніку гэтага выканана дрэнаж 164 га зямлі, выкапана равы на плошчы 533 га, зроблена рэгуляцыя рэк даўжынёю ў 10,5 км., а таксама загаспадаравана 30 га сыродпольных лугоў.

У час рэалізавання меліярацыйнага плана трэба было пераадолець шмат цяжкасцей. У аб'ектах Белавежа і Старына быў недахоп рабочай сілы. Рэяновае кіраўніцтва воднамеліярацыйных прац прывозіла рабочых з іншых мясцовасцей.

У час рэалізавання плана шмат было і добрай ахвоты з боку насельніцтва. Праводзячы меліярацыю ў даліне ракі Нурэц у раёне Кляшчэляў мясцовыя жыхары вельмі ахвотна дапамаглі пры нефаховых працах.

Меліярацыйны план на бягучы год закладае, між іншым, дрэнаж грунту на плошчы 142 га, выкапаць равоў на плошчы 595 га, а таксама рэгуляцыя рэк даўжынёю ў 16,50 км.

Выкананне гэтага плана пасадзейнічае далейшаму ўзросту прадукцыйнасці ўраджаяў, а таксама пагалоўя быдла на тэрыторыі Гайнаўскага павета.

**УЛАДЗІМІР САЦ**



 

 




# ТЫСЯЧА І АДНА ДРОБЯЗЬ

— Вось і настаі для нас, грамадзяне нематарызаваныя, цяжкія часы, — звярнуўся Кастусь да сялян. — З наступленнем цемры не праехаць нам ні ступою, ні рыссю. Ловяць нас на дарогах, штрафы бяруць за адсутнасць сігнальных ліхтароў, ды яшчэ фурманку затрымліваюць да раніцы. Мы, як гаворыцца, свае хваробы маем. Газавага ліхтара не купіш у магазіне, іх для ўсіх фурманак у краіне не назапасішся. А справа незвычайнай важнасці. Да этуль мы глядзелі на аўтамабіль з апаскай. У маторы трыццаць конскіх сіл з гакам. А аказваецца, наша адна конская сіла больш небяспечная.

Пры гэтых словах Кастусь аблізаў губы, абвёў позіркам прысутных і, паказваючы на расцягнутую на двух столках конскую вупраж, спытаў:

— Што ў каня знаходзіцца на гэтай папругі, землякі мілыя?

— Хвост! — хорам адказалі сяляне.

— Правільна ў анатоміі разбіраецеся, грамадзяне, — пахваліў Кастусь і дадаў: — дык гляньце, на задняй частцы вупражы запалілася малінавая лямпачка. Цяпер куды хочаце заварочваць, улева, ці ўправа?

Па баках уздзечкі залуналі жоўтыя лямпачкі.

— Як самі бачыце, — працягваў Кастусь, — штука не хітрая. Батарэйка каштуе два злоты. Самы прыдзірлівы кантралёр рот разявіць пры гэтакай сігналізацыі.

У зале разнёсся хохат.

— Хто хоча прымяніць маю творчую думку, прашу па сотні ад каня, — звярнуўся Кастусь. — Лямпачкі і праводка мае, батарэйку самі купіце.

Людзі падыходзілі да стала, клалі чырвоную паперку, а Кастусь запісваў прозвішча.

Потым Кастусь знік з вёскі і ніхто не ведае, дзе яго шукаць.

Грамадзяне мілыя, вінавата тут наша таргоўля. Кастусь шукае лямпачак. Усюды адкрыты магазіны «Тысячы і адной дробязі», а патрэбнай вам рэчы ў іх не знойдзеце. Выходзіць, што рэч, якую вы шукаеце, з'яўляецца тысяча другая і таму яе няма ў магазіне.

Трэба тады чакаць, пакуль адкрыюцца магазіны «Дзве тысячы дробязей». Мо' тады і Кастусь вернецца?

*Дзядзька Лявон*

# КУР'ЁЗЫ



— Усяроўна, якую са сваіх дочак дасце мне ў жонкі. Самае важнае, каб вы былі маёй цёшчай.



— Ці сапраўды нельга хоць раз пайграць спакойна?!

* * *

## ШАВЕЦ У ЛЕКАРА

Лекар: На што скардзіцеся?

Шавец: Ды на ўсё. Язык зрабіўся як падэшва, у горле — быццам нехта цвікоў панабіваў, жывот — усяроўна што дратваю сцягнуты, вочы — нібы клеем заліты, у вушах бы шылам коле, а самога як бы на капыт нацягнулі.

Прыслаў Аляксандр Варанко

* * *

## УСЁ ЛЮБІЦЬ

Да аднаго гаспадара зайшоў падарожны і папрасіўся пераначаваць. Пасля вячэры гаспадар пытае яго:

— Што вы найлепш любіце?

— Я ўсё люблю, — адказаў той.

— Калі так, то начуйце на падлозе, а я іду ў ложак, — сказаў гаспадар.

Прыслаў Янка Бароўскі



## САМАДБСЛУГОЎВАННЕ

## СПРЭЧКІ

На сходзе гуртка вясковых гаспадынь жанчыны спрачаліся, хто больш разважны: мужчына, ці жанчына. Адна з дыскутантак на доказ таго, што больш разважна жанчына, прывяла такі аргумент: — Я ніколі не бачыла жанчыны, якая бегала б за мужчынаю толькі таму, што ў яго зграбныя ногі.

Прыслаў Міхась Гіль

* * *

Чалавек упаў з вышыні 320 метраў і астаўся жывы! Гэты нязвыклы выпадак стаўся непадалёк сяла Троіцка - Пячэрск у савецкай аўтаномнай рэспубліцы Комі. Пасажыр верталёта Генадзі Ашчэпкаў адкрыў дзверцы, каб выкінуць акурак, і быў падхвачаны патокам паветра. Былы дэсантнік - парашутыст Ашчэпкаў не разгубіўся. Ён распахнуў фалды курткі і быццам крыламі махаў. Гэта дапамагло не ўпасць на лес, а на паляну, дзе ляжаў глыбокі снег. Больш дзвюхметравая вышыня снегу адыграла ролю амартызатара.

*

У Венскіх кавярнях і барах устаноўлена новыя апараты для цверазення п'яных кліентаў. Укінуўшы манету, гўтамат праз спецыяльную дзірку выпускае порцыю высокаканцэнтрыраванага аміяку. П'яны нахіляецца носам да дзіркі і адразу робіцца цвярозым.

* * *

## СОН У АКУЛЯРАХ

Бацька налажыў акуляры і пачаў чытаць газету. Раптам ён заснуў. Сын, які прыкмеціў гэта, сказаў да маці:

— Мама, глянь, тата спіць у акулярах. Напэўна хоча бачыць, што яму сніцца.

Прыслаў Толік Нікіцюк

* * *

## ХТО ВІНАВАТЫ?

Сусед: — Вася, чаго ты плачаш?

Вася: — Тата пабіў шыбу.

Сусед: — Якім чынам?

Вася: — Мама кідала паленам у тату, а ён схіліўся і палена трапіла ў акно.

Прыслала А. Міхалоўская

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

Па просьбе Марыі Максымюк, Людмілы Леўчук, Валі Вакульчык, з вёскі Крывой, Бельскага павета, таксама Надзі Дзмітрук з вёскі Волькі, Гайнаўскага павета змяшчаем песню В. Мурадэлі на словы Харытонава.

# РАСІЯ — РАДЗІМА МАЯ




Когда иду я Подмосковьем,
Где пахнет мятою трава,
Природа шепчет мне с любовью
Свои приветные слова.
Вдали рассветная полоска
Осенним пламенем горит.
Моя знакомая березка
Мне тихо - тихо говорит:

Припев:
Россия, Россия,
Родные вольные края,
Россия, Россия,
Россия — Родина моя! } 2 раза

Когда порой плыву по Волге
И чайка вьётся за кормой,
Гляжу, гляжу на берег долго -
Не расстается он со мной
Машу приветливо рукою,
А берег рядышком идёт.
И кто-то поздно над рекою
Широким голосом поет:

Припев

Когда меня московский поезд
Уносит в дальние места,
Хлеба мне кланяются в пояс.
Мерцает ранняя звезда.
На голос Родины я вышел.
Как ты, Россия, хороша!
Смотрю вокруг и сердцем слышу
Поет, поет моя душа:

Припев

 